wieku z naszego regionu do USA wyjechały tysiące miejscowych ludzi, część z których wyłącznie w celu zarobkowym. Lecz być może, wszystko jest bardziej proste: trafiła się Boyd jakakolwiek publikacja naukowa.

Tak czy inaczej, ale 29 września 1934 roku Boyd w towarzystwie polskich geografów Stanisława Gorzuchowskiego i Wandy Rewieńskiej przybyła do Pińska. Podróżnicy ulokowali się w eleganckim hotelu «Angielski» w centrum miasta, z telefonami, wannami, garażami, wyborną kuchnią. W kilku krokach znajdowała się pińska przystań, most nad Piną, słynny «Targ nad Piną», targ przy rynku miejskim z alejkami handlowymi przed kościołem św. Stanisława. Niedaleko była położona baza Pińskiej Flotylli Rzecznej Marynarki Wojennej, gdzie w razie potrzeby w warsztatach remontowych można było naprawić samochód. Dowódca Flotylli Witold Zajączkowski udostępnił dla ekspedycji kutry motorowe.

*«Przez swoje życie widziałam wiele różnych jarmarków w różnych krajach świata, lecz nigdzie nie widziałam tego unikatowego i ciekawego, co zobaczyłam w Pińsku. W tym mieście krzyżują się szlaki, ze wszystkich okolic przybywają i spotykają się ludzie, których dzielą dziesiątki kilometrów wody»,* — zaznaczyła podróżniczka 3 października 1934 roku po wizycie na dorocznym jesiennym jarmarku pińskim. Dodajmy, że dwa lata po tym jarmark sfilmują polscy dokumentaliści.

Podróżniczkę oczarował starożytny Pińsk, jednak głównym jej celem były słynne bagna pińskie i ich mieszkańcy.

*«Zazwyczaj bagna określa się jako coś ekstremalnie płaskie i jednostajne, czego tutaj nie zauważyłam, ponieważ moim głównym celem byli tylko miejscowi mieszkańcy… Żyjący na szlakach wodnych lub pomiędzy nimi, tworzą swoisty trzon etniczny, który wyróżnia tych ludzi wśród innych»,* — notowała w «Poleskim dzienniku» Boyd.

Na kutrach Pińskiej Flotylli Rzecznej Marynarki Wojennej Piną Boyd skierowała się w stronę jeziora Horodyszczańskiego. W pobliskich od miasta Pinkowiczach, gdzie obecnie umieszczono znak pamiątkowy ku czci jej odwiedzin Pińskiego Polesia, Louise Arner Boyd wykonała wiele zdjęć. Na nich miejscowy lud, chaty, chlewy, stogi, narzędzia rybackie i do tej pory wznosząca się na brzegu rzeki cerkiew Pokrowska. A w Horodyszczu, przy ścianach starożytnego benedyktyńskiego kościoła pw. św. Anny nad legendarnym jeziorem, Boyd sfotografowała mnóstwo rybackich narzędzi i wyposażenia. Z nurtem Jasiołdy, która toruje sobie drogę wśród dziewiczych bagien do Prypeci, Boyd dotarła do archaicznych Kudricz, Kuradowa i Płaszczowa.

*«Nietknięte przez współczesną cywilizację Polesie jest krainą lasów i błot… Już od czasów pradawnych zasiedlone przez ludzi, jednak wyraźnych zmian krajobrazowych tutaj, w odróżnieniu od Europy Zachodniej raczej nie występuje»,* — odznaczyła podróżniczka.

W unikatowych pejzażach wyczuwa się piękno poleskiej pierwotności, krajobrazy wypełnione są niepowtarzalnym samoistnym urokiem. A na głównej rzece poleskiej, «poleskiej Amazonce», na Prypeci Amerykanka zobaczyła pełny obraz życia Poleszuków. Pływające po wodzie liczne łodzie wieśniaków, przystosowane do przewozu bydła, siana i towaru, jak również dla połowu ryb, przedzierając się przez starorzecza i rzeczułki, służyły głównym środkiem komunikacji pomiędzy osadami. Rzeki i błota stanowiły podstawowe źródło egzystencji Poleszuka. Płynąc Prypecią, po odwiedzeniu Tupczyc, Chrystobołowicz i Knubowa, Luise Boyd w pobliżu Pińska uwieczniła na zdjęciach panoramy architektonicznych widoków stolicy Polesia.

Swoje pierwsze spostrzeżenia L.Boyd opublikowała w lipcu 1936 roku w magazynie «Przegląd Geograficzny», a wynikiem ekspedycji stała się publikacja w 1937 roku w Nowym Jorku albumu fotograficznego «Polska prowincja». Odznaczając unikatowość regionu, Amerykanka zastanawiała się nad pytaniem, ile trzeba czasu, by się odmieniło Polesie, by się zmieniło na lepsze ciężkie życie Poleszuka, polepszyły się warunki jego bytu, by się zaczęła rozwijać infrastruktura. Jak wiemy z historii — niewiele. Już w latach 60-70-ch ubiegłego stulecia kraj zaczął zasadniczo się zmieniać. Obecnie — to już całkiem inne Polesie. Właśnie dlatego fotografie Louise Arner Boyd stanowią cenne artefakty, które nas zanurzają w historię, przybliżając autentyczne Polesie.

Louise Arner Boyd zmarła 14 września 1972 roku w San-Francisco w wieku 85 lat.

Jeszcze za życia swoją rodową posiadłość w San-Rafael legendarna podróżniczka zapisała w testamencie dla Marin History Museum, a całość swojego dorobku naukowego i archiwum fotograficzne dla Amerykańskiego Towarzystwa Geograficznego. Fotograficzna spuścizna Boyd zawiera jeszcze mnóstwo niepublikowanych zdjęć z widokami Pińskiego Polesia.

W 1984 roku w amerykańskim mieście Miłuoki (Milwaukee, USA) odniosła olbrzymi sukces zorganizowana tam wystawa «Poleszuk oczami Louise Boyd», którą za trzy lata pokazano w Polsce. W 1991 roku w Krakowie wydano album fotograficzny «Kresy», większość fotografii w którym poświęcono ziemi Pińskiej.

Polesia fenomen jest to, że jego niesamowita dziewicą i tajemnica przyciągało, przyciąga i będzie przyciągnąć uwagę naukowców i wszystkich tych, którzy są nieodłącznym kreatywność, pragnienie nowej wiedzy i doświadczeń. A reszta zależy tylko od myśli i pragnienia tych, którzy chcą na Polesiu przejść po drogach Louise Boyd i odkrywania tego regionu.



Джон Франклін малодшы.
John Franklin Jr.
Джон Франклин младший.
John Franklin junior.



Сэт Кук.
Seth Cook.
Сет Кук.
Set Kuk.



Луіза з маці Луізай Кук Арнер. 1888 г.
Louise with her mother Louise Cook Arner, 1988.
Луиза с матерью Луизой Кук Арнер. 1888 г.
Louise z matką Louise Kuk Arner. 1888 r.



Партрэт падарожніцы, зроблены ў Лондане ў 1925 г.
A portrait of the traveler made in London in 1925.
Портрет путешественницы, сделанный в Лондоне в 1925 г.
Portret podróżniczki, wykonany w Londynie w 1925 roku.



Луіза Арнер Бойд.
Louise Arner Boyd.
Луиза Арнер Бойд.
Louise Arner Boyd.



На палубе «Хобі». 1928 г.
On deck of «Hobby». 1928.
На палубе «Хобби». 1928 г.
Na pokładzie «Hobby». 1928 r.




Луіза Бойд пасля ўручэння медаля Каллума Амерыканскага геаграфічнага таварыства ў 1938 г.
Louise Boyd after giving a Collum Medal of the American Geographical 1938.
Луиза Бойд после вручения медали Каллума (Medal Collum) Американского географического общества в 1938 г.
Louise Boyd po wręczeniu Medal Collum Amerykańskiego Towarzystwa Geograficznego w 1938 roku.




Пасля вяртання з Паўночнага Полюса. 1955 г.
After arriving from the North Pole. 1955.
После прибытия с Северного Полюса. 1955 г.
Po powrocie z Północnego Bieguna. 1955 r.



Луіза Арнер Бойд у Амерыканскім геаграфічным таварыстве. 1960-е гг.
Louise Arner Boyd at the American Geographical Society. 1960-s.
Луиза Арнер Бойд в Американском географическом обществе. 1960-е гг.
Louise Arner Boyd w Amerykańskim Towarzystwie Geograficznym. Lata 60-te XX w.




Даследніцкае судна «Хобі».
The research vessel «Hobby».
Исследовательское судно «Хобби».
Statek badawczy «Hobby».



Радавая рэзідэнцыя сям'і Бойд у Сан-Рафаэлі.
Family residency of Boyds in San Rafael.
Родовая резиденция семьи Бойд в Сан-Рафаеле.
Posiadłość rodowa rodziny Boyd w San-Rafael.

AMERICAN GEOGRAPHICAL SOCIETY

*SPECIAL PUBLICATION NO. 20*

# POLISH COUNTRYSIDES

## PHOTOGRAPHS AND NARRATIVE

BY

LOUISE A. BOYD

*with a contribution by*

STANISŁAW GORZUCHOWSKI




NEW YORK

AMERICAN GEOGRAPHICAL SOCIETY

## ПІНСКІЯ БАЛОТЫ[1]

Людзі, якія пражываюць на водных шляхах, маюць адметны характар, які розніць іх ад жыхароў іншых мясцін, дзе калі-небудзь ступала нага чалавека. У якой частцы свету яны б ні знаходзіліся — індзейцы урасы с возера Ціцікака, абарыгены папірусавых зарасляў возера К'ёга, кітайцы з дэльты ракі Яндзы, галандцы з затапляемых польдэраў — ва ўсіх іх асаблівы лад жыцця. Гэтая розніца патрабуе больш глыбокага даследавання. Па гэтай прычыне, калі ў 1934 годзе я брала ўдзел у Міжнародным кангрэсе географаў у Варшаве, то скарысталася магчымасцю наведвання края Пінскіх балот[2]. Адной з маіх мэтаў, таксама, як падчас іншых падарожжаў па Польшчы, было стварэнне максімальна вялікай колькасці фатаздымкаў края і яго жыхароў.

Што да тэррыторыі, пазначанай на карце як Пінскія балоты, то яе паверхня дасягае разам з Польскім Палессем плошчы каля 37000 км[2], і гэта толькі палова, нават меншая палова сапраўднай плошчы Палесся — даліны Прыпяці, якая дасягае да Дняпра[3]. Уся гэта цалкам роўная нізіна з'яўляецца краем лясоў і балот — «плоскім і безнадзейна аднастайным». Гэтая прастора даўно абжыта людзьмі, але чалавек змяніў тут натуральны ландшафт меней, чым у якім-небудзь іншым месцы на захадзе Еўропы. Усе статыстычныя карты Польшчы з рознага боку адлюстроўваюць слабое развіццё Палесся, напрыклад: незначную колькасць насельніцтва, малую колькасць сельгасугоддзяў і вялікую колькасць лесу.

## ПІНСК — ГАЛОЎНЫ ГОРАД БАЛОТ

У маіх вадроўках па гэтаму «ўнікальнаму кутку» Еўропы ў якасці адпраўнога пункта я выбрала Пінск, куды прыбыла 29 верасня 1934 года. Гэты вялікі горад з насельніцтвам каля 32000 тысяч чалавек (1931 г.) знаходзіцца ва ўсходняй частцы раўніны, якая называецца Загароддзем[4] і займае месца паміж шырокімі балоцістымі поймамі Ясельды — на поўначы і Піны з Прыпяццю — на поўдні. Статыстычныя карты выразна адлюстроўваюць важнаць Загароддзя, дэманструючы большую шчыльнасць насельніцтва і плошчу сельгасугоддзяў. Геаграфічнае становішча робіць Пінск цэнтрам Палесся. Стары сухапутны шлях паміж Чорным і Балтыйскім морамі праходзіць на блізкай адлегласці на захад ад Пінска; і ўсё ж такі выключнае значэнне для Пінска заўсёды мелі водныя шляхі. Перашкодай былі балоты, але насамрэч яны не з'яўляліся непраходнымі. Калі ў XVIII стагоддзі балоты былі пранізаны каналамі[5], якія вялі да Віслы і Нёмана, значнасць горада ўзрасла. Зерне, табак, тлушч з Украіны рухаліся па гэтаму воднаму шляху ў Данцыг і Кёнігсберг[6], а Палессе ў сваю чаргу вывозіла драўніну і дзёгаць. Зараз можна бачыць платы, якія буксіруюцца параходамі на колах з найбольш аддаленных усходніх раёнаў ля расійскай мяжы[7] ў Пінск, адкуль яны па каналу перавозяцца ў глыб Польшчы. Але падчас майго візіту, хаця адносіны Польшчы з Расіяй не былі варожымі, мяжа была зачынена для гандлю, у той жа час напружаныя стасункі паміж Польшчай і яе паўночным суседам Літвой сталі перашкодай для руху праз граніцу па Нёману.

Цяперашнім часам да Пінска можна даехаць аўтамабілем, аднак толькі ў сухую пару года, па адзінай дарозе, якая ідзе на ўсход ад Кобрына. Шаша вядзе на паўночны захад і злучаецца з другаснымі шляхамі. Кнубава, што знаходзіцца на адлегласці 14 км на паўднёвы ўсход ад Пінска, злучана з ім дарогай, якая пралягае праз мост цераз Піну. Гэта адна з нешматлікіх суседніх вёсак, наўпрост звязаная з Пінскам. Раз у тыдзень да Пінска даходзіць адзіны цягнік, які ідзе з Варшавы да польска-расійскай мяжы[8]. Астатні рух ажыццяўляецца па вадзе.

## ПАДАРОЖЖА ПА ВАДЗЕ

Польская частка Прыпяцкіх балот патрулюецца флатыліяй невялікіх манітораў і гідрапланаў польскага ваенна-марскога флоту[9]. На пінскія балоты я выехала на невялікім грузавым судне і вярнулася ўвечары. Корчмы[10] альбо якія-небудзь прыдарожныя гасцініцы на балотах адсутнічаюць, і было б немажліва аддаляцца ад Пінска на адлегласць большую чым на адзін дзень шляху, хіба што на параходзе на колах. Яны рэгулярна перавозяць пасажыраў, грузы і пошту, але не даюць магчымасці пазнаёміцца з паселішчамі.

Пра балоты звычайна пішуць,што яны плоскія і аднастайныя, але я не лічу іх гэткімі, магчыма таму, што галоўным прадметам маёй зацікаўленасці былі мясцовыя жыхары. У тыпажах рыбакоў і спосабах рыбнай лоўлі, разнастайнасці тыпаў сетак і іншых прыстасаванняў, у тыпах паселішчаў і спосабах вядзення гаспадаркі, у адрозненнях паміж самімі жыхарамі — русінамі, палякамі і яўрэямі, якія сустракаюцца тут у калейдаскапічных сцэнах вялікага пінскага рынка, я ўгледзела неверагодную разнастайнасць.

Першым уражаннем, якое зрабілі на мяне балоты, было адчуванне цішыні, якая час ад часу парушалася плёскатам вясла і рэдкім працяжным гудком парахода. Які кантраст з падарожжам па шумных ледзяных фіёрдах! На гук нашага катэра коні, якіх перавозілі на лодках з адной часткі гаспадарскага надзела на другі, выскачылі за борт і кінуліся да берага, цягнучы за сабой лодку з такой зацятасцю, як і іх спалоханыя субраты пры выглядзе і гуку майго аўтамабіля. Балоты багата населены птушкамі. Дзікія качкі і гусі прылятаюць з поўначы і застаюцца тут на ўсю зіму[11]. Палессе вядома як рай для паляўнічых. Аднак у гэтую пару года нават тыя птушкі, чые вясёлыя галасы разліваюцца цэлае лета,

змоўклі. Гэта велічная цішыня прыроды ахапіла і людзей, якія, кіруючы лодкамі, не разбаўляюць сваю працу вясёлай гамонкай і песнямі.

Выдзеўбаные рукамі пласкадонныя лодкі слізгаюць па вадзе. Месцамі рэчышча настолькі плыткае, што немагчыма выкарыстанне іншых лодак, акрамя пласкадонных. Іх памер вагаецца ад аднамесных,— прыдатных для перавозкі невялікай колькасці сельскагаспадарчай прадукцыі, да вялікіх грузавых барак. Лодкі рухаюцца пры дапамозе вёслаў, што маюць даўжыню каля 15 футаў[12] і заканчваюцца лопасцю для веславання на шырэйшых і глыбейшых водах. Цешыць вока відок рыбака і жанчын, якія паказаліся і зніклі ў люстэрку вады. На шырокіх рэчышчах чырвоныя і белыя буйкі служаць паказальнікамі глыбінь. Але толькі інстынкт, з якім нараджаецца гэты люд, з пакаленне ў пакаленне не бачачы іншага краявіду, іншага гарызонту, акрамя балот, дае магчымасць знаходзіць дарогу сярод бязмежных нерухомых водаў, пакрытых высокай травой і хмызняком.

## РЫБАЛОЎСТВА — ГАЛОЎНЫ ЗАНЯТАК

Балотныя мясціны вельмі багатыя рыбай, і рыбалоўства з’яўляецца натуральным і галоўным сродкам існавання насельніцтва. Рыбу ловяць на пласкадонных лодках з удзелам аднаго альбо двух чалавек, якія прабіваюцца пры дапамозе вясла праз балотныя зараснікі, што здаюцца непраходнымі. Там, дзе вада празрыстая, паверхня яе настолькі нерухомая, што рыбак і ягоная лодка цалкам адбіваюцца нібыта ў люстэрку. Выкарыстроўваюцца некалькі тыпаў сетак. Адзін з тыпаў — гэта вялікая конусападобная сетка вышынёй ад чатырох да пяці футаў, якая скаладаецца з трох лазовых кольцаў, звязаных лыкам. Такая сетка апускаецца шырэйшым канцом на некалькі футаў пад ваду. Рыбак пужае доўгім вяслом[13] рыбу, якая хаваецца ў зарасніку, і такім чынам заганяе яе ў сетку, а пасля выцягвае на паверхню. Іншыя сеткі, прадаўгаватыя, складаюцца з шэрага ўнутраных пастак і кольцаў, злучаных сеткай з грубай вяроўкі.

Пасля ўлова прадаўгаватыя сеткі чапляюць да шастоў і прасушваюць у вертыкальным становішчы, а конусападобныя кладуць проста на прыбрэжныя хмызнякі. Дзіўным здаецца тое, якім чынам рыбак можа з першага погляду, нават не прыглядаючыся, пазнаць уласную сетку. Дзівяць таксама спрыт і ўпэўненнасць, з якімі гэты рыбацкі люд рухаецца па водных прасторах без компаса.

Злоўленная рыба выкарыстоўваецца для ўласнага ўжытку і толькі свежая. Як я змагла пераканацца, не робіцца ніякіх спроб, каб засаліць, высушыць альбо завэндзіць рыбу, хаця бярозы, вельмі прыдатнай для вэнджання, тут дастаткова; гэта дзіўная процілеглась таму, што я бачыла ў паўночных краінах Еўропы.

## БАЛОТНАЯ РАСЛІННАСЦЬ

Балотная расліннасць мае вельмі важнае значэнне ў гаспадарцы людзей, якія жывуць на балотах. Асака з плоскай і жорсткай паверхняй вырастае да вышыні ў некалькі футаў над паверхняй балота. Сенакосы прыпадаюць на лета і пачатак восені. Мужыкі косяць, стоячы па калена ў балоце. Трава скошваецца косамі і ставіцца ў стагі на сплеценыя з галін насцілы. Летам асобныя стагі перавозяцца лодкамі на гаспадарку, але большая іх частка застаецца на берагах рэк. Асака ідзе на подсціл жывёле, а часам ужываецца для накрыцця дахаў. Аднак часцей за ўсё з гэтай мэтай выкарыстоўваецца чарот, які расце ў глыбіні балотных абшараў.

Сена з балот, якое ідзе на корм, летам і ранняй восенню складваецца ў стагі ўздоўж рэк. Зімой, калі балоты моцна замёрзнуць, сена і чарот перавозяць у вёску на санях, запрэжаных коньмі. Уздоўж берагоў пасуцца дойныя каровы. Нярэдка можна ўбачыць, як пасля даення яны пераплываюць праз раку.

На балотах расце шмат вярбы. Увогуле яна нізкарослая з гнуткім ствалом і галінамі. Яе нарыхтоўваюць для розных патрэбаў. Лісце абрываюць, а галлё сушаць і захоўваюць. Пры неабходнасці яго размякчаюць у вадзе, пакуль яно не стане дастаткова гнуткім, каб можна было плесці кашы для рыбы, кошыкі і сцены пуняў[14]. Карысць ад такой сцяны ў тым, што яна прадуваецца. Платы, сплеценыя з галін вярбы, — звычайны тып агароджы на ўсім Палессі. Такім чынам агароджваюць загоны, апрацаваныя палі, плошчы па прычыне адсутнасці драўніны. Сосны растуць у невялікіх гаях на пясчаных выспах[15] і даюць драўніну на мясцовыя патрэбы.

## ГІДРАГРАФІЯ

Цяжка вызначыць гідраграфічны рэжым, які рэгулюе рачную сістэму, што склалася ў басейне Прыпяці, а таксама вызначыць памер глыбіні і хуткасці воднай плыні. Як сцвярджае Дзяржаўны інстытут гідраграфіі, «нідзе болей нельга знайсці гэткай разгалінаванай воднай сеткі; плыні, якая так залежыць ад воднай расліннасці; такіх вялікіх залітых вадой тэрыторый і настолькі невызначаных межаў паміж вадой і сушай». Час паводкі звычайна прыпадае на сакавік альбо красавік, нізкі ўзровень вады — у верасні альбо кастрычніку. Гідраграфічны год пачынаецца 1 лістапада. Нярэдка ўжо в лістападзе і абавязкова ў снежні водныя шляхі замярзаюць, і рух на лодках саступае месца руху на санях. У гэтым балотным краі дзьмуць халодныя вятры з расійскіх стэпаў, робячы зіму больш суровай. Вясна пачынаецца ў траўні, часам — у пачатку чэрвеня.

## ПАЛЕСКІЯ ВЁСКІ[16]

Шырыня і глыбіня рэк зменлівая. Пад час вясновай паводкі прыток

вады павялічваецца ў 10-15 разоў, і яна шырока разліваеццапа прасторы. Паселішчы пабудаваны вышэй найвялікшага ўздыма вады на высокіх берегах альбо схілах, а таксама на пясчаных выдмах, звычайных на Палессі. За выключэннем рэдкіх рыбацкіх халуп[17] альбо асобных сялянскіх сядзіб, якія называюцца хутарамі, насельніцтва сабрана ў вёскі вулічнага тыпу з колькасцю ад 100 да 2000 жыхароў[18]. Як адзначыў Паўлоўскі, «палескі селянін так моцна прывязаны да вёскі з адной вуліцы, што нават частыя пажары не змаглі адбіць у яго ахвоту забудоўваць вёску гэткім чынам, дзе дамы, якія стаяць уздоўж вуліцы, шчыльна прыціснуты адзін да аднаго. Палеская роўнядзь спрыяе падобнаму тыпу забудовы, і часта вёскі расцягваюцца ўдаўжыню на 2-3 км. У такім паселішчы працэс рассялення па хутарах ідзе запаволена, са шматлікімі перашкодамі з боку жыхароў».

На самой справе пра палешукоў можна сказаць, што яны жывуць ў «драўляным веку». Жылыя дамы і іншыя пабудовы, сельскагаспадарчыя прылады працы і іншая тэхніка зроблены пераважна з дрэва. Дахі накрыты трыснягом з нізінных балот, балотнай травой альбо чаротам. Цесната сядзібнай забудовы і хуткае ўзгаранне будаўнічых матэр’ялаў прадстаўляюць сур’езную пагрозу падчас пажараў. Аб гэтым нагадваюць драбіны, прыстаўленыя да сцяны хаты, — звычка, прыўнесеная аднекуль. Паблізу знаходзяцца доўгія жэрдкі, некаторыя з мётламі на адным канцы, іншыя — з доўгім жалезным гакам для зрывання палаючага даха.

Новы закон аб аграрнай рэформе скіраваны на рассяленне гэтай людской грамады, ён адначасова паляпшае землеўпарадкаванне надзелаў, якія складаюцца з мноства асобных частак. Звычайны відок: лодкі, якія перавозяць коней, плугі, вазы і іншую тэхніку найчасцей з аднаго ўчастка гаспадарскага надзела на другі. Кожны з’яўляецца ўласнікам сваёй маёмасці, а для абазначэння яе межаў выкарыстоўваюцца драўляныя слупкі.

Насельніцтва вымярае сваю зямлю «шнурамі»[19]. Замест таго, каб лічыць у гектарах альбо акрах, гавораць: «У мяне гэтулькі шнуроў». Паўсюль выкарыстоўваецца аднаконны плуг. Бораны зроблены цалкам з дрэва, нават вострыя драўляныя зуб’і прымацаваны да папярэчын лыкам. Падчас наведвання балот я ні разу не бачыла валоў, якія вязуць воз альбо цягнуць плуг.

## БАЛОТНЫЯ ПАСЕЛІШЧЫ З НАТУРАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКАЙ

Большасць жыхароў балот забяспечваюцца самі. Лён апрацоўваюць і ткуць жанчыны. Каля свірнаў[20] відаць снапы льну, які сушыцца пад сценамі ў вертыкальным становішчы. Лён апрацоўваюць рознымі спосабамі. Самы просты спосаб заключаецца ў тым, што лён кладуць на ўвагнутую дошку і б’юць яго плоскім прачом[21]. Авечкі даюць воўну для цёплай дамактанай зімовай вопраткі. У дажджлівыя і халодныя дні ў на пачатку кастрычніка многія мужыкі носяць кажухі з аўчыны, зразумела, хатней работы.

Скошаныя на балоце сена і чарот складваюць у закрытых пунях альбо на полі ў стагі, якія маюць акруглую форму і прыўзняты над зямлёй на 3 футы на драўляных насцілах[22]. Стагі мацуюць рабалоўнай сеткай і часам на самы верх утыкаюць драўляны крыжык. Асноўная гародніна, такая як капуста, морква, фасоля і гарбузы вырошчваецца ў дастатковых для мясцовага ўжытку колькасцях. Бульбу захоўваюць пад пластом саломы і дзёрна для ўжытку зімой. Хлеб выпякаюць з жыта. Пад бохан кладуць лісты капусты, каб не пашкодзіць хлеб, устаўляючы яго ў печ.

Свінні худыя, на высокіх нагах, чорнай ці чорна-белай афарбоўкі. Іх гадуюць у кожнай вёсцы, таксама як кур, качак і гусей. Гэтыя прадукты ў спалучэнні з рыбай робяць насельніцтва самазабяспечаным. Выключэнне складаюць усяго некалькі прадуктаў, такіх як кава, гарбата і цукар, якія закупаюцца ў прамысловым цэнтры Пінску. Вёскі выкарыстоўваюць ваду з неглыбокіх, ад 2 да 4 метраў глыбінёй, студняў з жураўлём у выглядзе доўгай жэрдкі, прымацаванай да раздвоенага ствала дрэва[23]. Жанчыны мыюць бялізну ў студзёнай вадзе ракі і б’юць яе драўлянымі прачамі на плоскіх камянях.

## ВЫСОКАЯ НАРАДЖАЛЬНАСЦЬ ДЗЯЦЕЙ У ВЁСКАХ

У вёсках паўсюдна шмат дзяцей. Трэба прызнаць факт, што ў Польшчы найбольшы прырост насельніцтва чым у якой-небудзь іншай краіне Заходняй Еўропы, а на Палессі — самы высокі прырост насельніцтва сярод польскіх правінцый. Большасць вясковых дзяцей — босыя, бедна адзетыя і мурзатыя, але ўсе выглядаюць здаровымі і шчаслівымі. Немаўлят гушкаюць у кошыках з бярозавых галін[24], якія служаць калыскамі і падвешваюцца пад столь хаты. Маленькія лодкі, якімі кіруюць старэйшыя браты і сёстры, служаць сродкам руху для гэтых дзяцей, якія растуць на волі самі па сабе. Практычна кожнае дзіця з’яўляецца нянькай для малодшага за сябе. Гэтыя будучыя рыбакі і жанчыны-гаспадыні так упэўнена кіруюць сваім «караблём», як быццам дома, на сушы.

Да нядаўняга часу ва ўсім рэгіёне перабольшвала непісьменнасць. З таго моманту, калі край увайшоў у склад Польшчы[25], адукацыя стала абавязковай, і ў гэтым балотнай мясцовасці былі адчынены школы. Часам дзеці вымушаны хадзіць у школу за некалькі кіламетраў, і іх неадукаваныя бацькі не падтрымліваюць намераў улады. Старэйшыя мужчыны і жанчыны часта хварэюць на рэўматызм і нямногія з іх дажываюць да сталага веку.

Там, дзе рэльеф мясцовасці дазваляе, могілкі месцяцца на ўзгорках

побач з вёскамі. Большасць з іх агароджана нефарбаваным драўляным плотам, некаторыя — калючым дротам. Магілы, над якімі ўзвышаюцца крыжы з нефарбаванага дрэва без прозвішчаў альбо іншай спасылкі на асобу, — што з'яўляецца адлюстраваннем пагалоўнай непісьменнасці — прыкрыты калодамі[26]. Мноства невялікіх крыжоў сведчыць аб высокай смяротнасці сярод дзяцей. Пастаяннага догляду за магілкамі няма, але раз на год, на Вялікдзень, людзі прыходзяць сюды, каб абвязаць драўляныя крыжы даматканым палатном[27] і пакласці на край магіл звараныя ўкрутую яйкі[28].

## ПІНСКІ РЫНАК

Кожны, хто наведае Пінск, разумее, што ўсходняя Польшча — гэта край, дзе з пункту гледжання мовы, нацыянальнасці і рэлігіі перамешана шмат народнасцяў. У гэтым краі балот відавочны расійскі ўплыў: вялікая частка тутэйшага насельніцтва вызнае праваслаўе[29]. Кафедральны рымска-каталіцкі касцёл існуе з 1396 года[30]. Велічныя будынкі канца 17 стагоддзя, якія выклікаюць моцнае ўражанне, гэта касцёл і калегіум езуітаў на рынку. Касцёл дамініканцаў, які пабудаваны ў 1810 годзе таксама ў стылі барока, зараз з›яўляецца праваслаўным саборам[31]. Значную частку насельніцтва складаюць яўрэі[32]. Першыя дні майго візіту супалі з яўрэйскімі святамі, таму ўсе крамы былі зачыненыя. Вялікая плошча рынка была пустая. Таксама не меў прыкмет жыцця прыбрэжны бок рынку, дзе тавары выгружаюцца на сушу.

Надзвычайным кантрастам уразіла сцэна 3 кастрычніка, калі праходзіў вялікі штомесячны кірмаш. Я была на рынках у многіх краінах свету, але нідзе не бачыла такога, адзінага ў сваім родзе, захапляльнага відовішча як пінскі кірмаш. Гэта месца, дзе насельніцтва, якое пражывае ў радыусе некалькіх кіламетраў, сустракаецца, каб прадаць свае вырабы, павітаць адзін аднаго і разам выпіць гарбаты, піва ці выгнанай з бульбы гарэлкі ў невялічкіх шынках[33]. Дзень кірмашу, на самой справе — сапраўдны святочны дзень.

За некалькі дзён да гэтага прыбываюць лодкі з таварамі. Рака поўніцца новым жыццём. Шмат людзей прыплывае за 15 — 20 кіламетраў. Усё, што можа быць дастаўлена па вадзе, транспартуецца па Піне да прычала, размешчанага каля паўднёвага боку касцёла езуітаў. Многія з тых, хто прыплывае на лодках, начуюць прама ў іх; тыя, хто трапіў сюды па сушы, гэтак жа выкарыстоўваюць свае вазы.

У 7 гадзін раніцы гандаль у самым разгары. Як кірмашы ва ўсім свеце, так і пінскі рынак, падзелены на часткі. Пад паўночнай сцяной касцёла стаяць вазы з драўнінай: бярозавы брус, які выкарыстоўваецца для вагонаў, піламатэрыялы, дрэва для вытворчасці гонты, жэрдкі і дровы. Побач прадукцыя з дрэва.

Каля заходняй сцяны: хатнія птушкі, гародніна, садавіна — яблыкі, грушы, крыху вінаграда і бананаў. Вуліца ўздоўж заходняга боку касцёла была прызначана для вазоў з сенам, балотнай травой і чаротам. Пры продажы сена яго ўзважвае спецыяльна прызначаны вагаўшчык. Гружаныя сенам вазы з'язджаюць з пагорка, возчыкі лаюцца і праклінаюць адзін аднаго з-за найменшага дотыку да іх воза. Праехаць проста немагчыма. Я налічыла каля 300 вазоў.

Берагавая лінія з паўднёвага боку касцёла запоўнена ўсім тым, што прывозілася на лодках. Рыба прадавалася проста з лодак і была нанізана на шнуры. Увесь вольны прастор быў заняты лодкамі, выцягнутымі на бераг, лодкамі ўсіх тыпаў, напоўненымі рознымі прадуктамі. Уздоўж ракі праходзіць асноўная дарога, па якой большасць вазоў трапляла на рынак. Усходні бок, дзе на продаж былі выстаўленыя ўсе іншыя тавары, быў месцам усеагульнага гармідару.

Коні пераважна старыя і худыя, са зношанай збруяй. Драўляныя дугі — гэта звычайная справа. Мне сказалі, што палешукі аддаюць перавагу ім, а не дышлам, раменным шлеям і вяровачнай вупражы, якія выкарыстоўваюцца ў іншых месцах Польшчы[34]. Гаспадары прывозяць на рынак поўныя вазы гусей. Гусі са звязанымі лапамі, каб не збеглі, ляжаць дзясяткамі на праходзе. З курамі абыходзіліся такім самым чынам альбо трымалі іх у прымітыўных драцяных клетках. Вялікія белыя свінні, што ляжаць звязаныя на вазах, — характэрнае відовішча. Цялят прывозяць і трымаюць такім жа чынам. Жывых авечак гаспадары прыносяць на сваіх плячах.

Ядомыя грыбы, якіх вялікае мноства ў лясах паўночна-ўсходняй Польшчы, прадаюцца ў лазовых кошыках альбо нанізанымі на шнуркі, нібы часнык. У вялікай колькасці на рынку прадаюць яйкі і бульбу.

Тут можна сустрэць сялян рознага дастатку і тыпажу. Адзенне, як правіла, вельмі падобнае. Большасць мужчын носяць даматканыя ільняныя альбо ваўняныя нагавіцы. Некаторыя ходзяць боса, іншыя носяць лапці з лыкавай кары, намотваючы на ногі анучы замест шкарпэтак (нідзе не бачыла жанчын, якія б вязалі шкарпэткі ці панчохі). Найбольш заможныя носяць скураныя боты, якія таксама прадаюцца на рынку. Шапкі пераважна валеныя з воўны альбо сшытыя з чорнай аўчыны.

Жанчыны звычайна апранаюцца ў вопратку, сшытую са зрэбнай тканіны, альбо з набытага ў Пінску баваўнянага матэрыялу яркіх расфарбовак ці зусім цёмнага, аднакаляровага. Многія з іх носяць прыгожыя хусткі. Часта сустракаюцца ільняныя даматканыя фартухі. Некаторыя жанчыны ходзяць басанож, другія носяць лапці, іншыя — доўгія да калена скураныя боты альбо высокія чаравікі. Гэтак жа, як і мужчыны, яны зграбныя, прастадушныя і прыязныя.

Можна сказаць, што пінскі рынак адлюстроўвае лад жыцця на

балотах, а гораду надае значэнне бясспрэчнай сталіцы гэтага краю. Варта памятаць, што Пінск раней служыў месцам тавараабмену як для больш значных, так і для меншых тэрыторый... Да часоў паўстання 1863 года[35] ягоныя вялікія кірмашы наведвалі купцы з Кіева, Вільні, Варшавы.

Дзве ўмовы могуць паўплываць на ўздым Пінска: змена адносін з суседнімі Саветамі[36] і развіццё самога рэгіёну, што адбудзецца ў выніку меліярацыі балот, запраектаванай польскім урадам. Мы былі сведкамі ажыццяўлення двух велізарных меліярацыйных праектаў у Еўропе — дрэнажавання Зюйдзээ і Пантыйскі балот, але задачы, якія стаяць перад Дэпартаментам па меліярацыі Палесся[37], яшчэ больш значныя. Шмат часу пройдзе, пакуль пустынныя прасторы пінскіх балот зменяцца ўрадлівымі палямі, і яшчэ адзін некрануты куток стане ўсяго толькі фактам гісторыі.



## THE PRYPEC MARSHES

Dwellers on and among waterways are a folk apart from the general run of people, who have their feet planted on terra firma. In whatever part of the world they are found—primitive Uros of Lake Titicaca, Bakenyi of the papyrus swamps of Lake Kioga, Chinese of the Yangtze delta, the Dutch on their polders—they have a cachet of their own. It is a difference that invites attention. For this reason, I have devoted rather more time and study to the Prypec marshes than to the other parts of Poland that it was my privilege to visit.

The marshlands are roughly coincident with Folish Polesia (some 37,000 square kilometers), though this represents only half, and the smaller half, of the natural region of Polesia, the basin of the Prypec stretching to the Dnieper. This entire shallow depression is a country of forest and marsh, «flat and desperately monotonous.» It is a region of ancient settlement, but man has modified the original landscape less here than elsewhere in western Europe. All distribution maps of Poland reflect the relative primitiveness of Polesia—in the smaller population, the smaller amount of arable land, and the larger amount of forest, for instance.

For my travels in this «unique corner» of Europe I made my headquarters at Pinsk, arriving there on September 29. This city of some 32,000 inhabitants (1931) is on an elevation at the east end of the peninsula of Pinsk, the Zahorodzie, a spur between the broad, marshy valleys of the Jasiolda on the north and the Pina and the Prypec on the south. The distribution maps clearly suggest the importance of the Zahorodzie in greater density of population and amount of arable land. Site and situation make Pinsk a focal point. The old land route between the Black and the Baltic Seas lay a short distance west of Pinsk; but most important for Pinsk have been the waterways. The marshes have always constituted a barrier, but they are not impenetrable. When the canals to the Vistula and the Niemen were cut in the latter part of the eighteenth century Pinsk acquired a position of advantage. Grain, tobacco, and fats from the Ukraine went through en route to Danzig and Konigsberg; Polesia itself shipped out timber and tar. Today one sees rafts of logs being towed by side-wheel steamers from points as far east as the Russian frontier to Pinsk, whence they are shipped by canal to the interior of Poland. But at the time of my visit, although Poland and Russia were on good terms, the frontier was closed to commerce, and, as we have seen, strained relations between Poland and its northern neighbor, Lithuania, stopped traffic on the Niemen at the boundary.

Today Pinsk is accessible for motors—only in dry weather, however—by one through road, a dirt road running east from Kobryn. A wagon road goes northwest and connects with through routes. Knubowo, about 14 kilometers southeast of Pinsk, is connected with it by a road across a bridge over the Pina and is one of the few neighboring villages in direct communication with Pinsk. The city is reached by one train a day in each direction passing between Warsaw and the Polish-Russian frontier. All other communication is still by water.

## TRAVEL BY WATER

The Polish part of the Prypec marshes is patrolled by a fleet of small gunboats and speed craft of the Polish Navy. It was on a fast navy launch that I went out into the marshes and returned at night. Inns or lodgings of any kind are unknown in the marshes, and it would otherwise have been impossible to travel beyond a day's distance by boat from Pinsk except by the side-wheel steamers. These carry passengers, freight, and mail on a regular schedule on the larger canals, but they would have permitted no opportunity of visiting the settlements.

The marshes are commonly described as flat and monotonous in the extreme, but I did not find them so, possibly because my chief interest lay in the human element. In the fisherfolk and the several kinds of fishing, the many kinds of nets and other equipment, the different settlements and farm practices, in the differences among the people themselves—White Russians, Ruthenians, Poles, and Jews meet here—and in the kaleidoscopic scene of the big Pinsk market I found variety in plenty.

The first impression made on me by the marshes was of their great silence—a silence broken only by the occasional swish of canoe paddles or the rare whistle of a steamer. At the sound of our launch, horses being transported by canoe from one plot of farm land to another would bolt overboard into the canals and dash for land, towing the boats behind them, with an alacrity equal to that displayed by their confreres on land at the sight and sound of my automobile! Birds populate the marshes in great abundance. Wild ducks and geese from the north come and remain all winter, and Polesia is known as the hunter's paradise. Yet at this season of the year even the birds, whose «joyous calls resound all summer,» are silent. And this great silence of nature extends to the people, who, while poling their canoes, combine with their labors no merriment of laughter or song.

Hand-hewn, flat-bottomed boats ply the waterways. In places the canals are so shallow as to permit the use of nothing but flat- bottomed boats. They range in size from those suitable for individual use and for carrying small quantities of farm produce to large freight barges. They are propelled by poles about 15 feet long, with a flat blade used for paddling in the wider and deeper waterways. Very graceful is the movement of the fishermen and women as they appear and disappear in the maze of waterways. On the larger canals red and white markers serve as guides to

deep water. But only the instinct with which these people are born, who for generations have known no other abode and no other horizon than these marshes, enables them to find their way among the myriad uncharted waterways hidden in high grass and bushes.

## FISHING A CHIEF OCCUPATION

The marshes are well supplied with fish, and fishing is naturally a main support of the population. It is carried on from the flat-bottomed boats, manned by one or two men, who pole their way through seemingly impenetrable marsh vegetation. Where the water is visible, it is so still that the fishermen and their canoes are perfectly reflected. Several kinds of nets are used. One is a large, conical net, four or five feet high, composed of three wooden rings connected by mesh. This net is submerged large end down several feet below the surface of the water. The fisherman pokes into the reeds with his long pole and drives the fish into the net, which is then tilted and brought to the surface. Other nets are oblong and are composed of a succession of inside traps and small rings connected with netting of coarse string.

When the day's fishing is over, the oblong nets are attached to poles and dried in a horizontal position along the banks; small nets are dried upright; and the conical nets are placed right side up over bushes, along the edge of the more accessible waterways if possible. One cannot help but be surprised at the way the fisherman can, on sight and without stopping to examine them, identify his own nets. It is all of a piece with the ability and accuracy with which these fisherfolk navigate the maze of waterways without compass or marker.

The fish caught seem to be used for local consumption only and to be used fresh: as far as I could ascertain, no attempt is made at salting, drying, or smoking, even though birchwood, so well suited to smoking, is available in quantity. This is in marked contrast with what I have noticed in the northern countries of Europe.

## MARSH VEGETATION

The natural vegetation of the marshes is no less important in the economy of the marsh people. Marsh grass, coarse in texture and flat, grows to a height of several feet throughout the marshes. It is harvested during the summer and early autumn, by men who stand for the purpose in water and mud up to their knees. It is cut by scythe and stacked on a basketwork foundation of branches. During the summer some of the stacks may be carried by boat to the farms, but the greater number remain along the canal banks. The grass furnishes bedding for the farm animals and sometimes is used for thatching. The commoner thatching material, however, is the hollow-stemmed marsh reed.

Volunteer hay from the marshes is likewise stacked along the canals during the summer and early autumn for use as fodder. In winter, when the marshes are frozen solid, hay and grass are brought to the villages by horse and sleigh. Dairy cows are grazed along the canal banks. After milking they can often be seen swimming across the canals.

Willow grows abundantly in the marshes. Generally it is of low habit, with slender trunk and branches. This, too, is harvested for manifold purposes. The leaves are removed and the twigs dried and put away. When needed they are softened by being soaked in water until they are pliable enough to be woven into all kinds of basketwork— fishing baskets, linings for farm wagons, and for the walls of granaries, where the advantage of such a wall is that it permits the passage of air. Interwoven willow twigs make the common type of fence seen throughout Polesia, fencing farms and fields and corrals.

Pine trees grow in small stands on some of the islands and furnish a certain amount of wood for local use.

## THE HYDROGRAPHIC YEAR

It is difficult to define the hydrographic regime of this lacis of waterways that constitutes the Prypec basin or to make precise measurements of depth or flow. As the State Hydrographic Service observes: «Nowhere else does one find watercourses so rich in polyfurcations and branchings, a flow so profoundly influenced by the aquatic vegetation, inundated terrain of such extent, contours so indecisive. » Flood stage usually occurs in March or April, low stage in September or October. The hydrographic year is dated from November 1. Often by November, surely by December, the waterways are frozen, and boat transportation is replaced by sleigh. Bitter winds from the Russian steppes howl over the marshlands and make the winters extremely severe. Spring does not appear until May, sometimes early June.

## THE FARM VILLAGES

The breadth and depth of the rivers vary; during the flood season the flow may be increased to 15 times and the waters spread over vast surfaces. Settlements are built above the high-water mark on the elevated banks of the watercourses or on terraces or on the sandy islands (dunes) so common a feature of Polesia. Except for the occasional fisherman's hut and the isolated settlements called futory, the population is concentrated in compact villages of 100 to 2000 inhabitants, usually of the strassendorf type. As Pawlowski remarks: «The Polesian peasant is so deeply attached to his single-street village that even the frequent conflagrations do not discourage him from building in this form of close-set houses along a street. The Polesian plain favors this type of agglomeration, thanks to its configuration, and sometimes the villages are strung along for two or three kilometers. In such a village the process of dispersion is accomplished

slowly, with many objections on the part of the inhabitants.»

Throughout Polesia the houses and other buildings, farm tools, and equipment are largely of wood. Roofs are thatched with hollow-stemmed reeds, flat marsh grass, or rye straw. Close contiguity and inflammable structure make the fire hazard serious.

One is constantly reminded of it by the ladders placed against the house walls, a custom found elsewhere under similar circumstances. Long poles are also within easy reach, some with a brush of twigs on one end, for beating out fire, others with a large iron hook for pulling the burning thatch from the roof. The new agrarian-reform laws seek to disperse these crowded villages and at the same time bring about a better redistribution of the landholdings, held in many scattered fragments. It is a common sight to see horses, plows, wagons, and other equipment being transported by boat from one piece of property to another. Everyone owns his own property, and wooden pegs along the canals are used as property markers. People measure their property in sznury, «rope.» Instead of counting in hectares or acres, they say, ‘‘I have so much sznury.»

One-horse plows are in general use. Harrows are made entirely of wood, even the pointed spikes being of wood laced together with twigs. During my stay in the marshes I never saw oxen used to haul wagons or draw plows, although they are so used in other parts of Poland.

## MARSH SETTLEMENTS SELF-SUFFICIENT

For the most part the population of the marshes is self-sufficient. Flax is grown and woven by the women. One sees large bundles of it near the barns or drying upright against the walls. It is prepared in various ways; in the simpelst method the flax is laid over a hollow log and beaten with a flat club. Sheep supply the wool for the warm homespun winter clothing. In the chilly days of early October many people wore their sheepskin coats and hats.

Stacks of rye straw and of the volunteer crops cut in the marshes are piled, usually in circular form, in the barn enclosures or in the fields, raised three feet or so off the ground on wooden piles. They are fastened down with fish netting and sometimes are capped by a small wooden cross.

Hardy vegetables—chiefly potatoes, cabbages, carrots, and beets— and melons are grown in sufficient quantities for local needs. Potatoes are kept under a cover of sod and thatch for winter use. Rye furnishes the bread. A cabbage leaf is placed on the under side of the loaf to prevent the dough from sticking to the oven.

The hogs are a lean, tall-standing black or black-and-white breed. Together with chickens, ducks, and geese, they are raised in all the settlements. Combined with fish these products make the people self-supporting, save for a few staples such as coffee, tea, and sugar, which must be bought from the distributing point, Pinsk.

The settlements obtain their water supply from shallow wells (2 to 4 meters deep), with a well sweep if draw) in the form of a long pole balanced in the crotch of a forked tree. Women launder their clothes in the cold waters of the canals, beating the clothes with a wooden paddle on flat stones.

## NUMEROUS CHILDREN IN THE VILLAGES

Children swarm in all the villages; one appreciated the fact that Poland is increasing its population at a greater rate than any other country of western Europe and that Polesia has the highest birth rate of the Polish provinces. Most of the children of the villages were barefooted, poorly clad, and dirty, but all looked healthy and happy. Babies were swung in baskets of birch twigs, which serve as cradles and are hung on the house walls. Small canoes, manned by children of tender age, served as carriages for these water babies. Each child seemed nurse for a younger one. These fishermen and women of the future handled their small craft with easy assurance.

Illiteracy has prevailed throughout the region until recently. Since the area became part of Poland education is compulsory, and schools are maintained throughout the marshes. In places children have miles to go to school, and their illiterate parents frequently fail to cooperate with the authorities.

Old men and women often appeared crippled with rheumatism, and an absence of many old people was noticeable.

Where the topography permits, the cemeteries are on high ground close to the villages. Most of them are enclosed by unpainted wooden fences, some of them by barbed wire. Logs cover the graves, which are surmounted by unpainted wooden crosses without name or identification—a reflection of the prevalent illiteracy. The many small crosses indicate a high death rate among the children. No care is given to the cemeteries; but once a year, in Easter week, the people go there to tie hand-woven linen on the wooden crosses and eat hard-boiled eggs by the gravesides.

## THE PINSK MARKET

The visitor to Pinsk is reminded that eastern Poland is a country of mixed population—in language, race, and religion. Russian influence is evident throughout the marshes, and most of the people belong to the Orthodox Church, The Roman Catholic cathedral dates from 1396. An imposing baroque building erected in the latter part of the seventeenth century is the church and college of the Jesuits, in the market place. The church of the Dominicans, also baroque, dating from 1810, is now the Orthodox cathedral. Jews also form a large element of the population. The first few days of my stay were Jewish holidays, and, as most of the trading

